**У НУМАРЫ**




# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (817) ГОД XVI БЕЛАСТОК 24 КАСТРЫЧНІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


Людзі добрай работы

## СЦЯПАН ФІЛІПЧУК

Перадавы селянін Сцяпан Філіпчук з Новай Волі, Беластоцкага павета, мае добрыя поспехі ў вырошчванні збожжавых культур і ў жывёлагадоўлі. Жытам і пшаніцай абсявае ён 3,5 гектараў, а бульбу садзіць на 1,2 га зямельных угоддзяў. Сёлета збожжавыя культуры ў яго далі ўраджай у сярэднім 25—30 цэнтнераў з 1 гектара. Сцяпан Філіпчук гадуе 6 кароў, 4 рэпрадукцыйныя свінаматкі і 40 штук парасят. Штодзённа ў злеўню возіць ён па 50 — 80 літраў малака. У нялёгкай сялянскай працы карыстаецца ён уласнымі машынамі: электрарухавіком, касілкай, сячкарняй. сеўнікам і г.д. Намеран ён павялічыць жывёлагадоўлю і з гэтай мэтай зараз заканчвае будову другой аборы.

*Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі*





## Студэнцкі год пачаўся

У Беластоцкіх вышэйшых школах пачаўся новы навучальны год. Каля 6 тысяч студэнтаў будзе вучыцца ў трох вышэйшых школах Беластока: найстарэйшай — Медыцынскай акадэміі, Вышэйшай інжынерскай школе і наймалодшай — Вышэйшай настаўніцкай школе — філіяле Варшаўскага універсітэта. Па ліку студэнтаў найбольшай з'яўляецца Вышэйшая інжынерская школа, якая развіваецца вельмі дынамічна. У ВСН у гэтым годзе пачалося навучанне на завочным аддзяленні, а на стацыянарным увайшлі новыя напрамкі навучання. У новым навучальным годзе беластоцкая Медыцынская акадэмія атрымала сучасны інстытут стаматалогіі, дзе зубы лечацца без болю. На здымку: першы дзень новага года, натоўп студэнтаў перад будынкам Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

(вл)

фота: Цаф — Сянько

**БГКТ ХРОНІКА**

■ Прэзідыум гарадскога праўлення аддзела БГКТ у Беластоку 6 кастрычніка абмеркаваў заданні для аддзела ў сувязі з VI з'ездам ПАРП, а таксама ў справаздачна-выбарнай кампаніі БГКТ. Прэзідыум пастанавіў арганізаваць шэраг прац грамадскім чынам у гонар VI з'езда партыі: а) упарадкаваць пасля рамонту панадворак будынка — сядзібы ГП і аддзела; б) уключыцца ў працу грамадскім чынам жыхароў горада Беластока, в) дабіцца таго, каб усе члены гарадскога аддзела да VI з'езда партыі аплацілі членскія складчыны.

У пасяджэнні прэзідыума ўдзельнічаў кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Сяргей Лукашук.

■ 7 кастрычніка старшыні гурткоў Ніна Казімяровіч з Юшкавага Груда, Антон Саковіч з Міхалова, Пётр Госцік з Бялявіч і сакратар гуртка Крыстына Гайдучэня з Нароек (Беластоцкі павет), абмеркавалі ў Беластоку з прадстаўнікамі ГП і аддзела заданні для сваіх гурткоў перад VI з'ездам ПАРП.

■ 8 кастрычніка адбыўся пленум Сакольскага аддзела БГКТ. Разглядаліся два пытанні: 1) заданні БГКТ у святле дырэктыў на УІ з'езд ПАРП і 2) справы, звязаныя са справаздачна-выбарнай кампаніяй у БГКТ. Прадставіў іх прысутным намеснік старшыні аддзела Аляксандр Рафаловіч. Удзельнікі дыскусіі звярнулі ўвагу на вельмі істотныя справы ў працы БГКТ. Іван Аляксеюк з Гуран застанаўляўся над прычынамі змяншэння колькасці школ, у якіх навучаецца беларуская мова. Гаварыў ён таксама аб тым, як грамадскі камітэт ПАРП перад VI з'ездам партыі ўключае ва ўсенародную дыскусію над дырэктывамі партыі ў сваёй мясцовасці ўсе арганізацыі, у тым ліку і гурткі БГКТ. Зося Юрылік з Піражкоў даказвала на прыкладзе сваёй вёскі, якое вялікае значэнне мае аўтарытэт старшыні гуртка і яго арганізацыйная ўмеласць у працы. Калі няма добрага арганізатара, сцвярджала яна, дык няма і належнай працы гуртка. Аляксандр Макаль з Крушынянаў выказаў заўвагі да працы праўлення аддзела і яго недастатковай апекі над вясковымі гурткамі. Выступілі з прамовамі таксама старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі і сакратар павятовага камітэта ПАРП Станіслаў Шпакоўскі. Пленум прыдзяліў новыя заданні для членаў праўлення. У пленуме ўзялі ўдзел таксама кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП Ліда Антанюк і прадстаўнік аддзела культуры прэзідыума ПРН Валянціна Сенякевіч. Вёў пленум Аляксандр Рафаловіч.

■ На сваім пасяджэнні 10 кастрычніка праўленне навуковага гуртка ГП пастанавіла: папулярна-навуковую сесію з нагоды 15-ай гадавіны БГКТ і на тэмы, звязаныя з дзейнасцю нашага таварыства (аб гэтым пісалі мы ўжо раней), арганізаваць 28 лістапада 1971 года. Праўленне разгледзела стан падрыхтоўкі да друку навуковага сшытка, пашырыла яго рэдкалегію і ўвяло ў яе склад Міхася Кандрацюка — ад'юнкта інстытута славяназнаўства ў Варшаве, Юрыя Туронка — старшыню навуковага гуртка і Янку Зенюка — сакратара ГП БГКТ.

(мх)

**ВЫХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ**

# НАШ ГРАМАДСКІ КУЛЬТУРНЫ РУХ

Сацыялістычны характар нашай культуры вымагае існавання ў грамадстве важнага звяна — грамадскага культурнага руху. Гэтак выразна гаворыцца ў дырэктывах партыі. Гэтак выразна значэнне такога руху і ролю яго ставіць вялікі партыйны дакумент, да якога кожны павінен унесці свой уклад, але і на якім павінен будаваць сваю практыку.

А іменна — практыка. Што можам сказаць пра грамадскі культурны рух у асяроддзі нашых чытачоў, членаў БГКТ, і прыхільнікаў той дзейнасці, якую яно развівае?

У вялікай праграме партыі знайшліся словы, якія не толькі адзначаюць існаванне грамадскага культурнага руху, але і гавораць аб тым, што рух такі з'яўляецца неадзоўным і што трэба яго пашыраць.

З штодзённай практыкі і назіранняў у «найглыбейшым тэрэне» на працягу 15 год, маю права зрабіць на пастаўленую тэму некалькі ўваг. Грамадскі культурны рух нарадзіўся сярод беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне як рух аўтэнтычны, як сардэчная патрэба людзей, каб поўнасцю, «з галавой» увайсці ў будову новага вялікага і ўласнага дома для жыцця, працы і адпачынку.

Нарадзіўся ў нас гэты рух і стаў ён рухавіком узвыш і ўшыр, для пошукаў новых, больш нашых, сучасных шляхоў. Праз удзел у грамадскай працы людзі паднімалі сваю вёску, павет, саміх сябе выносілі на шырокія прасторы агульнага жыцця. Праз удзел у хоры, п'есе, конкурсе; праз пасадку дрэў і азеляненне вёсак; праз будову школ і клубаў; праз арганізаванне ў вёсцы розных асветных форм працы — гутарак, сустрэч; праз працу для дзяцей і ў імя дзяцей — людзі станавіліся часткай шырокага агульнапольскага руху і станавіліся гаспадарамі зямлі.

Толькі дзякуючы грамадскаму культурнаму руху чалавек убогай і занядбанай 30 год таму Беласточчыны мог выйсці ў шырокі свет, мог стацца адным са стваральнікаў культурных багаццяў.

Кожны можа быць тварцом, павінен быць тварцом! Шырокі дыяпазон паняцця «грамадскі культурны рух» падказвае формы працы і дзейнасці кожнаму, хто толькі захоча. Хто да чаго здольны, што каму падабаецца, не чакай прызнання, падзякі, бярыся і дзейнічай! Плён тваёй працы будзе табе ўзнагародай! Грамадскі культурны рух — гэта шырокая магчымасць навукі.

Для мяне наш грамадскі рух з'яўляецца сінонімам масавай культуры. І той факт, што культура стала ў нас даступнай усім, спрыяе дынамічна развіваючамуся грамадскаму культурнаму руху.

Рух гэты вырасціў этнаграфічны музей БГКТ, вырасціў паўтары сотні калектываў рознага роду і, што асабліва,

Працяг на стар. 4

## Артыкул дыскусійны

# УСЁ І НІЧОГА

Апошні пленум ГП БГКТ, прысвечаны працы гуртка, даў многа новых, добрых прапаноў. Паўтаралася: гурток павінен дзейнічаць, арганізаваць супольна з іншымі арганізацыямі розныя мерапрыемствы. Гэта ўсё праўда, але дыскутанты апусцілі вельмі істотную справу — дакументацыю ў гуртках. Прынялося так: прыязджае інструктар у вёску, распытвае, што члены думаюць рабіць, як складчыны. А, па-мойму, трэба пачынаць ад паперак. Калі няма ў гуртку спіска членаў і толькі нямногім вядома, хто з'яўляецца старшынёй гуртка, дык як мы, як арганізацыя, выглядаем звонку? Запісаны лік членаў з'яўляецца гістарычнай вартасцю. Добра было б, прымаючы ў члены, успамінаць тых, хто да нас належаў. На вёсках гэта будуць бацькі новых членаў. Тады будзе нацыянальнае пачуццё. Значыць, калі мой бацька быў членам і чуўся беларусам, дык чаму я маю быць горшы? Тут адразу ўзнікае цікавасць: што калісь рабілі ў гуртку, якімі праблемамі займаліся? А што зможа сказаць на гэту тэму старшыня гуртка, якому ад роду 18 год? Дапытвацца ў старэйшых не вельмі будзе. Добра, што ў некаторых гуртках знаходзяцца тэчкі. Але ў большасці іх няма. А гэта жывая гісторыя пакаленняў, асяроддзя. Цяпер такі час, што лічыцца тое, што можна пацвердзіць.

Абавязкова трэба прыкласці як найбольш намаганняў, каб гурток не азначаў усё і нічога. У некаторых гуртках новыя праўленні не ведаюць, што ў тыя тэчкі гурткоў хаваць. Перш за ўсё ў такой тэчцы павінен знаходзіцца спісак членаў, са старшынёй і рэштай праўлення на пачатку, каб не трэба было здагадвацца, хто ёсць хто. Затым пратаколы з пасяджэнняў праўлення гуртка. Павінны таксама апынуцца тут розныя паведамленні з аддзела ці ГП, словам усё, што датычыць гуртка. Не ведаю чаму, а ўсё ж ніяк не прымаецца ў гуртках падпісванне спіску прысутнасці. Прысутнасць жа на сходах сведчыць аб адносінах члена да арганізацыі. Можа, добра было б увесці ў дакументацыю гурткоў адпаведныя бланкі, у якіх была б дакладная інфармацыя аб кожным члене.

На пленуме многа гаварылася аб планах працы. Прагледзеўшы пратаколы гурткоў свайго аддзела, не знайшла я ніводнага плана. Гурток дзейнічае, але як, бяспланава? Тады якая яго дзейнасць? Напэўна, хаатычная. А арганізацыя для таго і ёсць, каб накіроўваць працу ў пэўным напрамку. Справа ясная, што апрацаванне плана патрабуе шырокага знаёмства з дзейнасцю БГКТ. Добра, вельмі добра, што гэтай справай занялося ГП. План агульны, які атрымаюць гурткі з ГП, многа паможа, аднак ці вырашыць справу, ці споўніць надзеі, якія ў ім хочам бачыць? Людзям жа мала сказаць: арганізуйце акадэміі, вечарыны, супрацоўнічайце з усімі. Трэба сябрам падаць хлеб, але хлеб добры. Усе ведаем, што трэба ў гуртках рабіць, але калі, канкрэтна? Даты! Звычайна, да кожнай урачыстасці даставіць даты. Мне здаецца, што не трэба ў такім плане, як цапом па таку, выбіваць якія можна рабіць урачыстасці. Напрыклад: 1—3, X — утварэнне КПЗБ (акадэмія ці вечарына), I—II, X — Дзень Польскага войска (акадэмія), 24-X — 7, XI — святкаванне Кастрычніка (акадэмія, вечарына) і г.д. Такі план быў бы амаль добры. Выпускаць яго аднак у гурткі ў такой форме не трэба. Ён і так толькі ў некаторых гуртках здзейсніцца, менавіта ў мацнейшых. Агульныя планы інструктары павінны крышку ўзбагаціць. Перш за ўсё стварыць рукі і ногі кожнай такой вечарыне ці акадэміі. Дакладна апрацаваць яе пачатак і канец, а тады прапанаваць праўленню гуртка. Прапанаваць, ніколі не накідаць. Бо могуць у гуртках быць выпрацаваны свае формы мерапрыемстваў, прынятыя ў асяроддзі. Старшыня будзе ведаць, як павінна выглядаць дадзенае мерапрыемства. На малых вясковых акадэміях напэўна і стол для прэзідыума будзе, і запрошаныя грамадскія дзеячы, і старшыню прэзідыума выбяруць! Тады аўтар, заехаўшы на сустрэчу, не будзе гаварыць, што «я — гэта паэт», яго будуць вітаць, як чаканага госця не толькі члены гуртка, але і ўся вёска, менш будзе непрыемных спраў. Гэта не фантазія. Добра было б нарадзіцца ў дваццаць год і ўсё ведаць. А старшыні нашых гурткоў пераважна маладыя, якія яшчэ сароміцца рашуча, самастойна выказаць свае думкі. Атрымаўшы канкрэтную параду, змогуць, абапіраючыся на яе, правесці добрую работу.

Прапанавала б я таксама весці ў гуртках хроніку, і не толькі гуртка, але і ўсяго асяроддзя (вёскі). Чаму? Не цяжка здагадацца. Людзі ў гуртках мяняюцца. У хроніцы, так як у люстры, усе змены можна адлюстраваць: добрыя і дрэнныя.

(Працяг на стар. 7)



## Што робіць ВАЛЯ Амельянюк і яе сябры?

Валя Амельянюк з'яўляецца настаўніцай пачатковай школы ў Паўлах. І першым адказам на пастаўленае пытанне будзе: вучыць. Але Валя таксама з'яўляецца адным з тых, аб якіх у дырэктывах партыі гаворыцца: аўтэнтычныя грамадскія дзеячы, якія маюць вялікі дар дзейнічаць сярод людзей і для людзей.

Валя дзейнічае ў вясковым асяроддзі — у асяроддзі гаспадароў і то маладых. І гэты факт яшчэ больш павышае ранг Валінай грамадскай працы.

Пачаўся асенне-зімовы сезон, калі вёска, звольненая ад тэрміновых прац у полі, мае больш вольнага часу. У Паўлах гэты вольны час адразу змяняецца на час упартай працы над новай п'есай. Паўлы праславіліся ўжо цікавымі і адважнымі спробамі ў галіне тэатральнай самадзейнасці. У мінулым годзе паставілі Паўлы «Немцаў» Кручкоўскага ў апрацоўцы і перакладзе на беларускую мову Валі Амельянюк. Цяпер узяліся зноў за рэч цікавую і наватарскую. Менавіта апрацавала Валя сцэнарый для новай п'есы паўлаўскага тэатра. Апрацавала яго паводле вядомай аповесці Марыі Шулецкай «Стаптаная зямля». Як наогул вядома, кніжка гэта пра спаленую вёску Райск.

На пытанне, ці паўлаўскі калектыў не баіцца цяжкасцей, Валя сказала: «Нашы людзі цяпер кажуць: як мы адолелі «Немцаў», то цяпер ужо нішто нам не страшнае». І далей Валя: «Гэта такія файныя людзі! Яны ўжо не даюць мне спакою, усё хтосьці прыбягае, пытае, ці хутка дам ім ролі да вывучэння».

Са «Стаптанай зямлі» ўзяла Валя адну плынь, менавіта любоў Васі да Ольгі. Расказ гэты вядзецца на фоне бурлівых дзеяў вёскі і ваколіцы ў цяжкія часы вайны і акупацыі. Фінальную сцэну Валя падрыхтавала вельмі моцна. Гэта сцэна, калі Вася даведваецца пра смерць Ольгі. І то смерць страшную. Як вядома з аповесці М. Шулецкай, гітлераўцы зверскі кінулі жывую Ольгу ў магілу забітых райскіх мужчын і жыўцом закапалі яе.

У пастаноўцы «Стаптанай зямлі» прымае ўдзел восем чалавек, чацвёра мужчын і чатыры жанчыны.

Хто будзе іграць галоўныя ролі Васі і Ольгі? Хоць гэта цікава, падаць пакуль што не можам. На ролю Васі, як праінфармавала нас Валя ў першай палове верасня, яна ўжо кандыдата мела. Роля Олі канчаткова яшчэ не была вырашана.

Усе аднак ролі п'есы вымагаюць вялікіх сіл і здольнасцей, каб аддаць сілу тых слоў і здарэнняў. Таму ўсім паўлаўскім аматарам-дзеячам жадаем поспехаў.

Чытачам прыпамінаем, што ў будучым годзе ў чэрвені споўніцца 30 год, як бельская вёска Райск перажыла сваю вялікую трагедыю, але адначасова і сваю вялікую гісторыю, гісторыю барацьбы і славы.

Тым больш актуальным будзе і мэтазгодным мерапрыемства вёскі Паўлы, якая сваім мастацкім дасягненнем падкрэсліць знамянальны факт, менавіта факт, што помнім і ніколі не забудзем пра тых, якія ў цёмную ноч гітлераўскай акупацыі аддалі жыццё за свабоду.

«Ніва» складае віншаванні адважным культурным дзеячам з Паўлаў.

На здымку Валя Амельянюк, настаўніца з Паўлаў.

*Вера Леўчук*

## БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

Хто з нас не носіць у глыбіні сваёй памяці чароўнага казачнага свету!

Ён сустрэў нас на заранку нашага жыцця і дзівоснымі шляхамі-сцяжынамі вадзіў па напоўненым страшылішчамі начным купалаўскім лесе, каб сарваць цудадзейную папараць-кветку, і стомленых пошукамі карміў з невычэрпнага абруса-самабранкі, засыпляў непрабудным сном царэўніным і ўваскрашаў жывою вадою. І надта ж утульна было нам у віхурысты зімовы вечар, калі, бы тая кужэльная нітка з кудзелі на калаўротку, вілася павольна з вуснаў бабулі ці маці займальная казка.

І цяпер мы зноў сустракаемся з абаяльным светам беларускай казкі, але ўжо не ў версіі нашай бабулі-казачніцы, а ў салідным томе акадэмічнага выдання. У бягучым годзе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР выдаў «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі»[1]). Выйшлі яны ў цыкле «Беларуская народная творчасць». Цыкл будзе складацца са звыш дваццаці тамоў і гэтым манументальным зводам ахопіць асноўны матэрыял нязмеранага багацця беларускага фальклору: песень, прыпевак, казак, легенд, народных жартаў, прымавак, прыказак і г.д. У гэтай гіганцкай працы заняты самыя выдатныя вучоныя-фалькларысты БССР. Упершыню ў беларускай фалькларыстыцы кожны твор беларускай вуснай народнай творчасці атрымае грунтоўную навуковую апрацоўку і будзе забяспечаны ў абшырны справачны апарат.

«Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі», як сцвярджае выдавецкая нота, і з'яўляецца якраз «адным з тамоў шматтомнага выдання беларускага фальклору. Упершыню тут сабраны амаль усе вядомыя зараз беларускія казкі пра жывёл» і чарадзейныя казкі, «блізкія да казак пра жывёл сваёй тэматыкай і сістэматыкай вобразаў».

У абшырным і змястоўным уступе складальнік тома К. П. Кабашнікаў зрабіў агляд гісторыі збірання і вывучэння беларускіх казак, коратка ахарактарызаваў іх ідэйны змест, нацыянальныя асаблівасці і мастацкае майстэрства. Пры гэтым ён сцвердзіў, што «беларускія казкі аб жывёлах — адна з каларытнейшых з'яў не толькі ў беларускім фальклоры, але і ў казачным эпасе ўсіх славянскіх народаў, асабліва ўсходніх славян» (стар. 26). Там жа К.П. Кабашнікаў на падставе навуковага аналізу гэтых казак, праведзенага разам з Л. Г. Барагам па міжнародных паказальніках казачных сюжэтаў Аарнэ-Томпсана, Андрэева-Аарнэ і Кржыжаноўскага, прыходзіць да вываду, што «хаця большасць сюжэтаў беларускіх казак аб жывёлах мае паралелі з казкамі іншых народаў і адзначана ў міжнародных паказальніках, многія творы або дапаўняюць і пашыраюць вядомыя сюжэты, або зусім не маюць варыянтаў у вуснапаэтычнай творчасці славян». Да гэтых апошніх належаць, між

(Працяг на стар. 5)

## БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ"

Ф. Багушэвіч нарадзіўся 21 сакавіка 1840 г. у фальварку Свіраны непадалёку ад Вільні. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, настаўнічаў на Лідчыне, прымаў удзел у паўстанні 1863 г. Памёр 28 красавіка 1900 г.

Выдаў зборнікі вершаў «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891; 1896), «Смык беларускі» (Познань, 1894) і апавяданне «Тралялёначка» (Кракаў, 1892).

ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

# ПАЛЯСОЎШЧЫК

(Апавяданне старога лесніка)

Трэці год ужо быў леснікам на графскай пушчы, хадзіў цягам па лесе, па оступах, па градах і ведаю, што мядзведзь ёсць, але бог бараніў спаткацца аж да гэтага года; ды і цяпер не ведаю, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў.

А вот як было: якраз у задушны дзень. Той дзень на ляпорт мы ўсе сабраліся. Прыйшлі рана,

2

меўся лоўчы паляваць, ды штосьці з жонкай пабіліся ці што, от так, яму было не да ляпорту, не да палявання, і пратрымаў нас да вечара без нічым нічога, а падвечар загадаў дроў нарубаць; так і да ночы звялося.

Ноч цёмная, мне дахаты трэба ісці праз сваю пушчу, праз оступ; дарогі ніякай няма, ідзеш логам, пасля градой, а там ізноў оступ; праз ручаёк доўгая старая елка, можа ўжо гадоў сто ляжыць вываратня, і па ёй пераходзім, бывала.

Якраз, даходзячы да той вываратні, думаю сабе: «Вот, божа барані, цяпер мядзведзь на спатканне...»

Аж шапка паднялася, яж сэрца ёкае, улез на вываратню, пугач недзе стогне ў старым дубе, — яшчэ страшней стала...

Калі чую: вываратня аж калышацца, хтось ідзе з другога канца на спатканне. Так і ёсць, ён, мядзведзь, сапець, аж страх. А дожджык як з рэшата сыпе. А ведаю я, што мядзведзь палахлівы, але ж і я не надта каб ад яго смялейшы. Дай, думаю, спалохаю я яго. Як зараву я па-мядзвежаму — уга! А ён — шабалдых у балота, а крыкнуў, як чалавек: «Ах!»

Лячу бардзей дахаты, ці не задраў ён маёй каровы? Не, цэла, дзякаваць богу, ходзе па гародчыку. Я ў хату шусць!

«Жонка, кажу, мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука!» Калі жонкі і ў хаце няма, дзеці спяць, сучка ляжыць пад сталом, смалякі гараць на прыпечку, і бульба прэе. Што за прычына? Я туды, я сюды — няма жонкі; ці не павесілася, ду-

3

маю, са злосці, што мяне няма, а яна тыкі злая. Калі пачакаўшы трохі і яна ідзець у хату — уся мокрая, а дрыжыць, як лісток.

«Жонка, кажу, мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука».

«А божа ж мой, божа, гэта, кажа, пэўне той самы і мяне, спаткаўшы, хацеў задраць; як зароў, дык аж я ў балота па шыю ўляцела».

«Гдзе ж ты, кажу, яго спаткала?»

«На чортавай пералазцы (так завецца тая вываратня); ішла цябе спатыкаць, ці з двара дахаты клікаць».

«А я, кажу, ішоў дахаты і на той пералазцы спаткаў мядзведзя і спалохаў яго, дык ён у ручай зваліўся».

«А можа то я была?»

«Вот, кажу, я бы цябе не пазнаў?.. То мядзведзь быў, пэўна. Вот ты дык можа мяне спаткала, а не мядзведзя».

«Але? Нябось, кажа, я добра прыгледзелася: і морда яго, і хвост кароценькі, і зароў як трэба, аж засмярдзела».

«А бадай цябе пярун спаліў! Давай, баба, бялізну змяніць!»

Ну, так і будзе — нячыстая сіла, думаю, нас абое ў медзвядзёў перакінула, а мы самі і не ведалі, бо і чаго ж мне па-мядзвежаму раўці і ўсё рабіць, як мядзведзь са страху?..

Дык і хто яго ведае, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў?..

Пачатак на стар. 1

# НАШ ГРАМАДСКІ КУЛЬТУРНЫ РУХ

зыходзячы з партыйных дырэктыў, хачу падкрэсліць, вырасціў гэты рух людзей — грамадскіх дзеячоў культуры. Гэта найбольш сапраўдныя культурныя дзеячы. І хоць многія з іх не атрымалі звання «Заслужаны дзеяч культуры», то якраз ім, у святле дырэктыў партыі, маем поўнае права прысвоіць ганаровае гэтае званне. Ім, людзям скромным, простым і працавітым! Ім, аб якіх гаворыцца ў дырэктывах, што не што іншае, як «ўмеласць працаваць для развіцця грамадскага культурнага руху павінна быць адным з галоўных крытэрыяў ацэнкі працаўнікоў культуры...»

Такую ўмеласць працаваць для іншых, для асяроддзя маюць многа вядомых і менш вядомых нам асоб сярод нас. Дзякуючы іх умеласці цэлыя вёскі становяцца вялікімі групамі актывістаў. Пачынаецца агульны ўздым, прыбаўляецца кроў і на вачах змяняюцца вёскі, гарады, самі людзі. Глядзіш і дзівуешся, як многа добрага можа зрабіць чалавек — грамадзянін свядомы і актыўны.

Гарадок, Пянькі, Ячна, Паўлы, Рыбалы, Грэдалі, Чыжы, Стараберазова, Вілянова, Літвінавічы — усюды там жывуць людзі, для якіх патрэба грамадскага дзеяння стала патрэбай, без якой не ўмеюць жыць. Дзеячы культурнага руху, стваральнікі элементаў сацыялістычнай культуры.

У дырэктывах гаворыцца, што гэты вялікі грамадскі рух павінен злівацца ў адно з дзейнасцю прафесіянальных культурных устаноў. Тут, на жаль, у мяне крытычная ўвага, якую дзеячы часта пацвярджаюць: дапамога і падтрымкі з боку прафесіянальных устаноў не заўсёды прыходзяць. А дзеяч культуры, звяртаючыся ў дамы культуры, культурна-асветныя парадні ці аддзелы культуры, сустракаецца з рознымі цяжкасцямі. Ды на шчасце, махае рукой і... бярэцца да працы. Ён вечны аптыміст!

Дарэчы будзе запісаць, што справа дапамогі — інструктажовай, матэрыяльнай ці нейкай іншай, усё яшчэ не да канца вырашана таксама ў паветах Беласточчыны, дзе развіваецца рэгіянальны культурны рух беларускай меншасці. А рух гэты сапраўдны і з'яўляецца часткай агульнапольскага грамадска-культурнага руху. Іншая толькі яго спецыфіка, але аб гэтым яшчэ будзем пісаць таксама на аснове дырэктыў партыі да VI-га з'езда.

*Вера Леўчук*

## Валейбалісткі з Гайнаўкі ўсё ж трэніруюцца

Слаўная на Беласточчыне і па-за яе межамі (між іншым, з розыгрышаў з валейбалісткамі Гродна) жаночая валейбольная каманда Гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў пачатку школьнага года не мела дзе трэніравацца. Фізкультурная зала ліцэя пастаўлена на рамонт. У ёй коштам 134 тысячы злотых выменьваецца паркет. Рамонт праходзіць надта марудна. Не хапае адпаведных матэрыялаў. Дырэкцыя школы робіць няспынныя захады ў гэтай справе ў куратoрыі Беластоцкай школьнай акругі, аднак рамонт пасоўваецца слаба. Паўстала небяспека, што гайнаўскія валейбалісткі не змогуць адпаведна падрыхтавацца да розыгрышаў, якія іх чакаюць у гэтым і наступным годзе. Але з дапамогай ліцэю прыйшла пачатковая школа №. 1, якая дазволіла валейбольнай камандзе праводзіць трэніроўкі ў фізкультурнай зале іх школы.

Цяпер мы ўпэўнены, што валейбольная каманда гайнаўскага беларускага ліцэя на чале з яе трэнерам Мікалаем Урублеўскім не спыніць сваіх трыумфаў на стадыёнах краіны і па-за яе межамі. (мг)

## Супрацоўніцтва паланіста з настаўнікам беларускай мовы

У сваім артыкуле я хацеў бы звярнуць увагу на супрацоўніцтва настаўніка-паланіста, працуючага ў школе для беларускай нацыянальнай меншасці, з настаўнікам беларускай мовы.

Настаўнік-паланіст, працуючы ў падставовай школе з беларускай мовай навучання або з беларускай мовай як прадмет, павінен добра ведаць праграму не толькі свайго прадмета, але і прадметаў, непасрэдна звязаных з польскай мовай, як напрыклад, беларуская мова, руская мова, гісторыя і геаграфія. Сярод гэтых прадметаў вылучаецца беларуская мова як прадмет, які робіць найбольшы ўплыў на польскую мову. Справа ў тым, што беларуская мова для гэтых дзяцей намнога бліжэйшая, чым польская мова. Дзеці яе ведаюць ад калыскі, гавораць на ёй у хаце і на вуліцы. З польскай мовай яны знаёмяцца толькі тады, калі пераступяць парог школы. Дык добра было б, каб кожны паланіст хаця ў дастатковай ступені валодаў беларускай мовай і ўмеў на ёй пісаць. Гэта дапамагло б настаўніку ў працы пры навучанні агульнапольскай літаратурнай мовы. Гэта дало б магчымасць бачыць памылкі ў вусных адказах і ў пісьмовых працах, а таксама адразу іх выпраўляць. Калі паланіст будзе ведаць родную мову вучняў, то будзе арыентавацца, якія элементы фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу ў абодвух мовах падобныя або аналагічныя, а якія з'яўляюцца зусім чужымі для роднай мовы вучняў. Як вядома, з элементамі аналагічнымі вучні не маюць цяжкасцей, але з падобнымі элементамі трэба быць вельмі асцярожным, бо формы з падобнай структурай часта могуць мець зусім іншае прымяненне. На гэтую праблему звяртае ўвагу праф. Вечаркевіч у артыкуле «Аб навучанні польскай мовы як чужой», змешчаным у «Poradniku językowym» Nr. 6, 1966 г.

Калі настаўнік не будзе ведаць роднай мовы вучняў, тады вучні будуць рабіць шмат лексічных памылак.

Часта настаўніку-паланісту беларуская мова можа прыйсці з дапамогай на ўроках граматыкі, паколькі ў многіх выпадках праграма граматыкі беларускай мовы апярэджвае польскую мову. Тут супрацоўніцтва проста неабходнае. Для прыкладу падаю тэму з праграмы па сінтаксісу беларускай мовы ў пятым класе: «Агульнае паняцце аб сувязі слоў у сказе, складаны выказнік, злучнік, іменная частка выказніка і г.д.». Гэтая тэма з сінтаксісу польскай мовы рэалізуецца толькі ў шостым класе. Тады настаўнік павінен спаслацца на веды вучняў, атрыманыя на ўроках беларускай мовы і, абапіраючыся на іх, увесці новыя паняцці ў польскай мове. У працэсе навучання неабходна памятаць аб прынцыпе так званага нарошчвання цяжкасцей, якое заключаецца ў пераходзе.

## Фабрыка малака ў Заблудаве

Фабрыка малака ў Заблудаве, Беластоцкага павета, з'яўляецца філіялам акруговай спулдзельні малака (ОСМ) у Беластоку. Займаецца яна перш за ўсё прадукцыяй такіх сыраў, як саламі, лімбургскі і мысліўскі, тварагу, прамысловай казеіны і іншых малочных вырабаў.

Скупляе яна ў сярэднім 27 тысяч літраў малака ў дзень. Значную частку атрыманай на месцы смятаны фабрыка адсылае да ОСМ у Беластоку, якая займаецца, між іншым, прадукцыяй высакаякаснага масла са знакам якасці «Q». Калі ў Беластоку бывае вялікае запатрабаванне на малако, а беластоцкая ОСМ не мае яго столькі, колькі трэба, тады фабрыка малака ў Заблудаве адсылае частку свайго малака. Сыра і іншых малочных прадуктаў заблудаўская фабрыка малака прадукуе столькі, на колькі ёсць магчымасці іх продажу. Напрыклад, розных сартоў сыра прадукуе да 20 тон у месяц, тварагу 1,5 тоны ў месяц і г.д.

Фабрыка выконвае таксама заказы на малочныя прадукты мясцовага ГС-у і сваіх дастаўцаў. Фабрыкай малака кіруе загадчык Юрка Жэрэль. Працуе на ёй 27 асоб, у тым ліку некалькі асоб з шматгадовым стажам працы, як, напрыклад, узнагароджаная Сярэбраным крыжам заслугі Яніна Вэнгелевіч — майстар сыраварні, якая працуе на фабрыцы 18 гадоў, Вацлаў Палікарп — старшы інструктар скупкі (23 гады), Генавефа Каспшак, майстар казеінярні (12 гадоў) і Эдвард Мойсак — механік-кансерватар (7 гадоў). Сярод членаў калектыву дзейнічае 9-асабовая партарганізацыя, якая прымае актыўны ўдзел у штодзённым жыцці калектыву і цэлай фабрыкі.

У сувязі з павелічэннем колькасці гектараў меліяраваных лугоў і сенажацяў, з году ў год расце таксама колькасць літраў малака. Кіраўніцтва фабрыкі дамагалася ў сувязі з гэтым правядзення мадэрнізацыі фабрыкі. Яшчэ ў 1969 годзе фабрыка атрымала большыя пакоі, дзе памясцілася, між іншым, фабрычная лабараторыя і г.д., а апрача таго перабудавана халадзільнае абсталяванне, ачышчальня сцёкаў, магазін, разбудавана сушарня, казеінярня і г.д. Кошты мадэрнізацыі склалі суму 7 млн. злотых. Зараз працаўнікі карыстаюцца таксама лазняй і шатняй.

Колькасць малака на пунктах скупкі і на фабрыцы залежыць перш за ўсё ад дастаўцаў і працы пунктаў скупкі на вёсках. Зараз заблудаўская фабрыка малака мае 25 пунктаў скупкі малака, так званыя злеўні малака. Амаль усе злеўні знаходзяцца ў новых тыпавых будынках. У гэтым годзе такі будынак будзе перададзены ў карыстанне ў Ахрымавічах. Будуецца яшчэ новая злеўня малака ў Скрыбічах. Малако са злеўняў на фабрыку прывозяць «кулковыя» трактары ў кантэйнерах.

Да найлепшых пунктаў скупкі малака належаць злеўня ў Заблудаве, якой кіруе Марыся Харыла, у Козліках (Вацлаў Рагуцкі) і ў Давідавічах (Мікалай Міхалюк). Гэтыя злеўні скупляюць штодзень па 2—3 тысячы літраў малака.

*Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі*



*Фабрыка малака ў Заблудаве.*

# ЗЯМЛЯК — КАНСПІРАТАР

### ДРЭВЫ ЛЯ ЦАРКВЫ

Ля царквы ў Жэрчыцах растуць старыя дрэвы.

Высокія, старыя дрэвы! Каб вы патрапілі гаварыць! Ці расказалі б вы мне, як тут было тады, калі сярод дрымучых, непраходных лясоў 970 год таму назад — так! — яшчэ ў *тысяча першым годзе!* — нейкія місіянеры хрысціянскай веры заснавалі праваслаўны прыход? Не, высокія, старыя жэрчыцкія дрэвы, вас тады, напэўна, яшчэ не было. Аднак, магчыма, былі вы ўжо, калі ў 1819 годзе настаяцелем жэрчыцкага прыхода стаў свяшчэннік *Фаўст Будзіловіч.* Пераехаў ён з Бранска. Відаць, не па ўласнаму жаданню, бо хто хацеў бы пакінуць багатую местачковую парафію, каб атрымаць прыход, загублены сярод пушчы? Жэрчыцкі прыход ахопліваў тады вёскі: Жэрчыцы, Забалоцце, Паканева, Машчона Панская, Сычы, Грабарка, Вакуловічы і Шумілаўка. Цяперашні гаспадар жэрчыцкай царквы, свяшчэннік Яўгеній Платонавіч Панько, які ў гэтай вёсцы жыве ад 1935 года, рашуча сцвярджае:

— На тадышні час гэта быў надта ж скромненькі прыход. За ім замацоўвалася ледзь дзве валокі зямлі. Так што Будзіловічы вялікай тут роскашы не знаталі.

*Першага лютага 1829 года ў сям'і Тэклі і Фаўста Будзіловічаў нарадзіўся ў Жэрчыцах сын, якога назвалі Аляксандрам.*

Высокія, жэрчыцкія дрэвы, што вы ведаеце пра лёс гэтага свайго земляка?

### НЕБЯСПЕЧНЫ ПАСАЖЫР

Быў пачатак 1864 года. Ва ўсіх заходніх губернях царскай імперыі, у цэлым Царстве Польскім шалелі высланнікі Мураўёва-Вешальніка.

У купэ цягніка, што імчаўся з Варшавы ў Віцебск, сядзеў 35-цігадовы адстаўны падпаручнік Аляксандр Будзіловіч. На станцыі Дзінабург у Віцебскай губерні (цяпер — Даўгапілс, Латвійскай ССР) у купэ ўвайшоў прапаршчык Грыгор'еў і пачаў ператрасаць багаж пасажыраў. Шукаў забароненай высачэйшым загадам усялякай крамолы. Дайшоў да падпаручніка Будзіловіча. Нягледзячы на яго вышэйшы вайсковы чын, прапаршчык Грыгор'еў узяўся за багаж адстаўнога афіцэра. І тут аказалася, што падпаручнік Аляксандр Будзіловіч мае пры сабе 10 фунтаў пораху, 2 стрэльбы, пісталет і дзве шаблі, а не мае аніякага дазволу на перавоз зброі. Значыць, мяцежнік, паўстанец! Такіх або пад расстрэл, або ў Сібір! Пакуль што падарожжа Аляксандра Фаўставіча Будзіловіча закончылася ў падвалах дзінабургскай крэпасці. Меў ён тады шмат часу, каб падрабязна абдумаць свой жыццёвы шлях. Ды следчыя таксама хацелі ведаць, хто ён, якое за ім прошлае?

### СІРОЧАЯ ДОЛЯ

Калі Аляксандру было 14 год, памёр яго бацька. Памер раптоўна, ад нейкай хваробы. Свяшчэннік Панько гаварыў мне, што ў той час у жэрчыцкім прыходзе шалела эпідэмія халеры. Ці ж бы жэрчыцкі настаяцель Фаўст Будзіловіч заразіўся ёю, калі праводзіў у апошнюю дарогу сваіх парафіян? Гэта магчыма. Адно толькі ведаем напэўна, што яго жонцы Тэклі, яго сыну Аляксандру і дачушцы Дзеянізіі прыйшлося звычайна бедаваць. Пра гэта расказвае нам *«усепакорнейшае прашэнне»*, якое ўдава Тэкля Іванаўна накіравала Літоўскаму архіепіскапу Іосіфу 23 чэрвеня 1843 года. Яна пісала: «(...) *не маючы ніякіх сродкаў на пражыццё, вымушана я была вучыцца на павівальную бабку на казённым утрыманні ў г. Беластоку, адкуль накіравана ў г. Віцебск, займаюся гэтым і цяпер, утрымліваючы пры сабе дзяцей. Але паколькі сын мой Аляксандр, які мае ад роду 14 год, без звальнення з Літоўскай епархіі не можа быць прыняты ў тутэйшае духоўнае вучылішча, адсылаць жа яго ў месца нараджэння з-за вялікай аддаленасці і мае беднасці не маю сродкаў, то, прыпадаючы да ног Вашага Высокапрэасвяшчэнства, адважваюся ўсепакорна прасіць зрабіць літасцівае распараджэнне аб звальненні сына майго Аляксандра з Літоўскай для накіравання ў Полацкую епархію...»*

Што ж. зямляк Аляксандр? Горка, праўда, ўспамінаць пра гэта. Свяшчэннікам ты быць не жадаў, аднак хацеў вучыцца. А для хамаў, з якіх ты выводзіўся, даступныя былі толькі духоўныя семінарыі. Дык вучыўся ты ў Полацку, закончыў там курс філасофіі. Крымская вайна дапамагла табе пазбыцца свяшчэнніцкай расы. Ты стаў прапаршчыкам Аланецкага палка, які ў 1859 годзе перавялі ў... Варшаву.

### СВАБОДА — ЗНАЧЫЦЬ БАРАЦЬБА

У Дзінабургскай крэпасці сядзіш пад строгім наглядам. Ці ведаеш, што гэта па асабліваму загаду Мураўёва? То ж некалькі месяцаў таму назад расстралялі нейкага Ігната Будзіловіча, камандзіра паўстанчага атрада. Мо гэта твой сваяк? Таму цябе пра яго пыталі. Чакаеш вось на чарговы дапрос. Хвалюешся. Ці пранюхаюць, што чаўплі вы ў Варшаве? Ці даведаюцца пра твой актыўны ўдзел у падпольнай дзейнасці Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы? Як гэта было?

Памятаеш? 5 лістапада 1862 года. Палымяныя словы: *«Таварышы! Мы, што ідзём на смерць, вам кланяемся! Ад вас залежыць, каб гэта была не смерць, а жыццё новае...»* Гэта заклік тваіх таварышаў па барацьбе. Ты быў адным з іх. Даследчык вашай падпольнай дзейнасці Ул. А. Дзьякаў налічыў вас звыш паўтысячы. Да цябе з даверам адносіліся арганізатары вашага рэвалюцыйнага руху. М. П. Агароў — сябра і таварыш па барацьбе А. І. Герцэна — аднатаваў у сваёй запісной кнізе: «(...) *Аланецкі пяхотны полк: Іцінскі 1-ы (камандзір фурштацкай роты), паручнік*

 

— ад таго, што блізкае, да таго, што далёкае;
— ад лягчэйшага да цяжэйшага;
— ад вядомага да невядомага.

Калі навучанне польскай і беларускай мовы не знаходзіцца ў адных руках (а гэта найлепшае вырашэнне справы), павінна быць паміж паланістам і настаўнікам беларускай мовы цеснае супрацоўніцтва. Павінна яно заключацца ў

— двухбаковым азнаямленні з праграмамі і неабходнымі падручнікамі,

— двухбаковым зацікаўленні размеркаваннем матэрыялу,

— узаемных кантактах настаўнікаў у справах праграмы і навучання,

— узаемным наведванні ўрокаў, каб не было розніцы ў методыцы навучання.

А супольныя ж метадычныя справы — гэта не толькі граматыка, але і заданні, звязаныя з лектурай, тэхнікай і метадыкай навучання арфаграфіі, праблемы пісьмовых прац рознага тыпу, выкарыстанне навуковых дапаможнікаў і г.д. Чым больш цеснае будзе супрацоўніцтва, тым лепшыя будуць вынікі.

Навучанне польскай мове ў школах для нацыянальных меншасцей адыгрывае вялікую ролю ва ўсебаковым развіцці вучняў. Уменне валодаць польскай мовай з'яўляецца неабходнай умовай поспехаў у вучобе і актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці.

Польская мова як прадмет мае вялікае ідэйна-выхаваўчае значэнне. Звязвае яна беларускую моладзь з Народнай Польшчай, фарміруе актыўную грамадскую паставу і падрыхтоўвае да сацыялістычнага будаўніцтва. Вывучаючы польскую мову, вучні даведваюцца аб свеце, чалавеку, фарміруюць свае характары, вучацца лагічна думаць, вывучаюць польскую літаратуру. Вывучэнне польскай мовы як прадмета ў пачатковай школе неабходна таксама дзеля таго, каб

— навучыць вучняў правільна, зразумела і канкрэтна выказвацца вусна і пісьмова,

— пазнаёміць вучняў дзякуючы граматыцы са структурай польскай мовы, навучыць пісаць без памылак,

— вывучаць маглі яны выбраныя творы найбольш вядомых польскіх пісьменнікаў і некаторыя творы сусветнай літаратуры,

— падрыхтаваць вучняў да самастойнага здабывання ведаў, да ўмелай працы з кніжкай, слоўнікам, энцыклапедый, бібліятэчным каталогам».*)

Як бачым, паланіст павінен даць вучням такі запас ведаў, каб пасля заканчэння пачатковай школы змаглі яны працягваць вучобу ў сярэдніх школах, а пасля і ў вышэйшых навучальных установах.

*Ю. Кузмюк*

*) Program nauczania ośmioletniej szkoły podstawowej. Język polski kl. 5—8. Uwagi wstępne s. 2, W-wa 1963 r. PZWS

---

*Будзіловіч, ад'ютант 1-га батальёна Лойка. Ад іх жа падрабязнасці ваеннай арганізацыі ўсёй 4-й дывізіі».* Так запісаў. Вось за гэтыя кантакты, за знойдзеную ў цябе на варшаўскай кватэры нелегальную літаратуру, у якой успамінаецца Герцэнаўскі «Колакал», за сяброўства з польскімі афіцэрамі — пагналі цябе з арміі. Памятаеш? Сталася гэта пасля першага твайго арышту — яшчэ ў Варшаве, 18 лютага 1863 г.

СЯБРЫ — ПАЛЯКІ

Следчы пытае:

— Чаму вы, як сын праваслаўнага свяшчэнніка і рускі афіцэр, мелі ў сябе візітныя карткі на польскай мове?

Ты адказаў:

— Таму, што ў Царстве Польскім польская мова больш ужываецца, як руская.

Так ты адказаў, бо не мог сказаць, што сябраваў з «мяцежнікамі». Твае шчасце, што следчая камісія не змагла даведацца пра ўсе твае сувязі. Тады не выкруціўся б ты ад расстрэлу. Удалося табе! 11 сакавіка 1864 года Мураўёў загадаў: «Былога афіцэра рускай арміі, адстаўнога падпаручніка Аляксандра Фаўставіча Будзіловіча выслаць у Пермскую губерню пад строгі нагляд паліцыі».

У ссылцы прабыў ты 6 год. Пасля, скарыстаўшы з амністыі, перасяліўся ў Варшаву, дзе жыў твой дзядзька — настаўнік лацінскай мовы.

* ✲ *

Высокія прыцаркоўныя жэрчыцкія дрэвы, ці ведалі вы пра ўсё гэта?

*Віктар Рудчык*

---



*Візіт у старшыні прэзідыума ПРН уГайнаўцы. Злева направа: Мікалай Самоцік, Аляксандр Богуш, Кастусь Ляшчынскі і Міхась Хмялеўскі.*

# Алесь Богуш у „НІВЕ"

Як ужо інфармавала «Ніва», 20-га верасня прыбыў у Беласток як госць «Беластоцкай газеты» галоўны рэдактар «Гродзенскай праўды» Алесь Богуш. У гэты ж самы дзень спаткаўся ён і з нашым ніваўскім калектывам.

Стала ўжо традыцыяй, што прадстаўнікамі гродзенскага друку, якія прыязджаюць у Беласток, адзін дзень апякуецца «Ніва». Быў гэта дзень 21-га верасня. Выехалі мы ў Бельскі і Гайнаўскі паветы, у асноўныя паветы нашага беларускага дзеяння. Заехалі мы спачатку ў вёску Райск, на брацкую магілу, у якой ляжыць 149 чалавек, расстраляных немцамі. Затым наведалі мы школу і ў ёй ізбу памяці райскай трагедыі. І тут пазнаёміліся з кіраўніком школы Софіяй Шэнгольц і настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Мамотка.

У Бельску Падляшскім сардэчна сустрэў госця з Гродна дырэктар агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча — Аляксей Карпюк і яго намеснік — Рыгор Анацік. Расказалі яны гродзенскаму журналісту аб працы і дасягненнях школы.

Наступным месцам кароткай пабыўкі галоўнага рэдактара «Гродзенскай праўды» была Гайнаўка. Там прыняў яго гаспадар павета, старшыня павятовай рады народовай Мікалай Самоцік. У гэтай сустрэчы прынялі таксама ўдзел: старшыня гарадской рады народовай Кастусь Ляшчынскі, старшыня і сакратар гайнаўскага аддзела Беларускага таварыства Аляксандр Іванюк і Віктар Бура. Прысутныя з вялікай прыемнасцю адказвалі на пытанні госця, а таксама самі цікавіліся жыццём братоў з-за мяжы. Таварышы Самоцік і Іванюк суправаджалі нас у далейшай паездцы па Гайнаўшчыне. Перад ад'ездам у Белавежу разам наведалі памяшканне аддзела БГКТ, дзе Віктар Бура ўручыў госцю сімвалічны падарунак. Затрымаліся мы таксама на магілах савецкіх салдат. А ў Белавежы пагледзелі на зуброў і пабывалі ў прыродазнаўчым музеі і ў беларускім этнаграфічным музеі БГКТ.

Апошнім месцам пабыўкі ў гэты дзень была вёска Трасцянка. Настаўнікі мясцовай школы на чале з Іванам Тапалянскім падрыхтавалі багатую гасціну. Была тут і сардэчная размова, і чарка, і раздольная песня, а пасля цёплае развітанне.

*Міхась Хмялеўскі*
*Фота Віктар Бура*

---




## Перыяд Вялікага княства Літоўскага

ПАЛЕМІСТЫ І ПРАПАВЕДНІКІ. ЧАСТКА IV

*Афанасій Філіповіч.* Жыццё Афанасія Філіповіча не было пазбаўлена нязвыклых, а нават сенсацыйных момантаў. Нарадзіўся, праўдападобна, у 1597 годзе, памёр у 1648. Быў Філіповіч бадай што найбольш паслядоўным і ўпартым абаронцам праваслаўя. Нягледзячы на няўдачы, праследванні, рэпрэсіі, застаўся да канца жыцця верны ўсходняму рэлігійнаму абраду. Не ведаў Філіповіч кампрамісаў і ўступак, умеў сказаць сваю праўду ў вочы не толькі роўным сабе царкоўным дзеячам, але і мітрапалітам, і свецкай знаці, і каралю Рэчыпаспалітай.

Паходзіў Філіповіч з Брэстчыны. Няма сумненняў, што няраз вандраваў па Беласточчыне. У некаторых сваіх творах успамінае, між іншым, аб Бельску, дамагаючыся свабоды дзейнасці для праваслаўных гэтага горада.

У 1627 годзе Філіповіч пасвяціўся ў манахі Святадухаўскага манастыра ў Вільні. У 1633 годзе быў накіраваны як падігумен у Дубойскі манастыр пад Пінскам. Праз некалькі гадоў пераехаў Філіповіч у Купецікі манастыр.

Ужо хаця б з вышэй прыведзеных фактаў бачым, што жыццё Філіповіча было пазбаўлена манатоніі. Была гэта аднак толькі ўвертура да пазнейшага, поўнага напружання і канфліктаў жыцця гэтага дзеяча.

Пяройдзем зараз да некалькіх момантаў з пасма безупынных трывог і парываў у жыццёпісе Філіповіча.

У 1637 годзе Філіповіч накіраваўся ў Маскоўскую Русь, да рускага цара. Намерваўся там прасіць грашовай дапамогі на аднаўленне Купяцкай святыні. У сувязі з тым, што цар не хацеў прыняць яго, Філіповіч пераслаў на царскія рукі мемарыял, у якім прадставіў слязлівы пералік няшчасцяў праваслаўных у Рэчыпаспалітай. Відаць, аднак прыйшоў да вываду, што гэтага пераліку замала, каб звярнуць на сябе ўвагу рускага цара, і таму далучыў да мемарыялу рад звестак, якія, ужываючы сённяшнюю тэрміналогію, можна было б назваць звесткамі разведчыцкімі ці шпіёнскімі. Паведамляў цару, што ў Польшчы рыхтуюць наступнага самазванца — прэтэндэнта на рускі трон. Не мала ў мемарыяле і містыфікацый. Філіповіч спасылаецца на свае візіі і прывіды, у час якіх паяўляліся перад ім святыя, або багародзіца і заахвочвалі яго пайсці да рускага цара і прасіць дапамогі.

Мабыць, не вярнуўся Філіповіч з Масквы з пустымі рукамі. Па загаду царскай канцылярыі прывезлі Філіповіча ў самы Магілёў. Невядома, ці адбудаваў Філіповіч царкву. Вядома аднак, што ў два гады пасля прыезду з Масквы быў ён выбраны на ігумена Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце. Ад гэтага моманту пачынаюцца перыпетыі і драматычная барацьба Філіповіча за паўнапраўную свабодную дзейнасць праваслаўнай царквы.

Годам пазней бачым ужо Філіповіча на вальным сейме ў Варшаве. Удалося яму прабрацца да караля Уладзіслава IV і дабіцца ад яго прывілеяў для брэсцкага праваслаўнага брацтва. Прывілей быў дадзены, але не ўдалося яго ажыццявіць, бо выступілі супраць яго рэалізацыі мясцовыя ўлады.

У 1643 годзе разжалены Філіповіч зноў накіраваўся на варшаўскі сейм. Гэтым разам быў добра падрыхтаваны, уручыў паслам і каралю два дакументы: «Гісторыю» свайго падарожжа ў Маскву і «Супліку», якая была зваротам да польскага караля.

«Супліка» не была жаласлівай просьбай. Была яна палымяным абвінавачаннем шляхецкай Рэчыпаспалітай. Была гарачай абаронай праваслаўнага люду. Была рашучай пагрозай у адрас сістэмы і самога караля.

Пагражаў Філіповіч і страхам божым, і гневам люду, і заклікаў караля вярнуцца на ўласцівую дарогу «покі час маеш». Гэтага, зразумела, было ўжо замнога, і Філіповіч разам з сваім дзячком павандравалі ў арышт. Калі скончыўся сейм, была ўчынена над Філіповічам судовая расправа. Па-за справамі, звязанымі з формай і зместам яго выступлення, выцягнулі на расправе і іншыя «факты». Закідалі Філіповічу, што, уцёкшы з арышту, у адной кашулі бегаў па вуліцах і крычаў: «Бяда праклятым і няверным» і «Глядзіце, да чага давялі нас латыняне, не маем ужо нават у што апрануцца».

Праваслаўны суд дзейнічаў, несумненна, з інспірацыі каралеўскай канцылярыі і таму пазбавіў Філіповіча звання святара і накіраваў яго пад канвоем да кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы.

Канцылярыя мітрапаліта, мабыць, не патрактавала закідаў сур'ёзна, таму што звольніла Філіповіча і накіравала на старое месца ў Брэсцкі манастыр. Аднак ужо ў наступным годзе Філіповіч быў зноў арыштаваны. На гэты раз закіды былі сур'ёзныя. Рускае пасольства дабілася перадачы рускім уладам псеўдацарэвіча Яна Лубы, якога рыхтавалі польскія феадалы на рускі трон. Было даказана, што Філіповіч перадаў рускаму пасольству інфармацыі аб псеўдацарэвічу. Філіповіч быў пасаджаны ў турму з калодкай на шыі. Меў быць выпушчаны толькі тады, калі вернецца з Масквы Ян Луба. Седзячы ў турме, Філіповіч напісаў рад твораў, у якіх дамагаўся свабоды не толькі для сябе, але для ўсіх праваслаўных.

У 1643 годзе Філіповіча накіравалі зноў у Кіеў з загадам трымаць яго ў адасобленым месцы. Выйшаў Філіповіч на свабоду толькі пасля смерці мітрапаліта Магілы ў 1647 г.

Пражыў усяго паўтара года, бо першага ліпеня 1648 года быў арыштаваны пад закідам высылкі даносаў і пораху для казакоў Багдана Хмяльніцкага. Пасля доўгіх мучэнняў быў пятага верасня 1648 г. расстраляны салдатамі ваяводы Масальскага. Не загінуў аднак бясследна, пакінуў багатую літаратурную спадчыну, якой зоймемся праз тыдзень.

---

(Працяг са стар. 3)

# БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

іншымі, такія казкі як: «Воўк, ліса і стралец», «Дзяцел, воўк і ліса», «Чаму ваўкі званка баяцца», «Чалавечы розум» і г. д.

У томе змешчана 181 казка. Пачэрпнуты яны з усіх вядомых дагэтуль беларускай фалькларыстыцы выданняў, а таксама і з тых запісаў, што знаходзіліся да гэтага часу ў рукапісах. Выдатна ўзбагацілі лік сваімі запісамі, зробленымі ў апошнія гады на тэрыторыі БССР, К. П. Кабашнікаў, Л. Г. Бараг, М. Я. Грынблат і іншыя сучасныя збіральнікі. Варта пры гэтым заўважыць, што ў выданні знайшліся таксама беларускія казкі з Беласточчыны (чатыры казкі з ваколіц Сухаволі сённяшняга Сакольскага павета, запісаныя ў канцы XIX стагоддзя М. Федароўскім, і адна з Нараўкі сённяшняга Гайнаўскага павета, запісаная на пераломе XIX і XX ст. ст. Е. Р. Раманавым). Застаецца толькі пашкадаваць, што не трапілі ў том сучасныя запісы казак, зробленыя на Беласточчыне навуковымі працаўнікамі і студэнтамі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

У том увайшлі запісы, зробленыя не толькі беларускімі фалькларыстамі. Значная колькасць іх, бо аж 47 казак, узята з першых трох тамоў «Люду беларускага» М. Федароўскага. Гэтыя запісы, як сцвярджае К. П. Кабашнікаў, «найбольш дакладныя, яны добра перадаюць асаблівасці мастацкага майстэрства казак, багацце народнай мовы» (стар. 12). Ёсць таксама запісы і іншых польскіх (В. Вярыгі, Ч. Пяткевіча) і рускіх (У. Дабравольскага) фалькларыстаў. Таму не будзе перабольшаннем, калі скажам, што гэты том казак з'яўляецца прыкладам, як у выніку амаль 10-гадовай карпатлівай працы беларускіх, польскіх і рускіх збіральнікаў сёння пачынае выходзіць у свет манументальнае выданне, якое дакументуе багацце вуснай народнай творчасці беларускага народа.

*Мікалай Гайдук*

[1]) Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі, Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Мінск 1971, стар. 496.



 

# ТРЫБУНА чытачоў



*Дарога ў Вольку Тэрахоўскую, пабу даваная грамадскім чынам.*

*Фота: В. Бура.*

## ДАРОГІ

Паміж Руткай і Тапаркамі палявая дарога. У дажджавую пагоду тапіліся тут фурманкі ў балоце. І доўга давялося б чакаць сялянам, пакуль дзяржава зацікавілася б рамонтам гэтай дарогі. Ёсць важнейшыя дарогі і вуліцы, якія ў першую чаргу патрабуюць рамонту за грошы. Таму добра зрабілі жыхары Руткі, калі вясною навазілі на гэту дарогу пяску і засыпалі балота. Зрабілі найважнейшае, але не закончылі справы. Раней фурманкі тапіліся тут у балоце, а цяпер страгнуць у пяску. Трэба гэту дарогу зажвіраваць абавязкова, тады будзе яна дарогай. Яшчэ раз павінны Руткі мабілізавацца і гуртам навазіць на гэту дарогу жвіру. Гэта ж не для каго-небудзь чужога, а для сябе. Гэта дарога найбольш патрэбна Рутцы.

*М. Панфілюк*

## НА СХОДЗЕ

3 кастрычніка г.г. у Дубічах Царкоўных адбыўся сход мясцовай партыйнай арганізацыі, прысвечаны VI з'езду ПАРП. Перш за ўсё абмяркоўваліся пытанні партыйнай дысцыпліны і развіцця гаспадаркі.

*М. Панфілюк*

## ГАДУЮЦЬ СВІНЕЙ

Міжгуртковая машынная база (МБМ) у Рафалоўцы, Беластоцкага павета, прыступіла да загаспадарання зямельных угоддзяў ПФЗ і да гадоўлі свіней. Зараз у аборы ў Камёнцы мае яна 264 штукі парасят. На пашу для свіней МБМ-аўскі калектыў пасадзіў 5 гектараў бульбы і 1 гектар вікі. У наступным годзе гадоўля свіней будзе пашырана да 500 штук.

Варта адзначыць, што калектыў МБМ у Рафалоўцы ў гонар VI з'езда партыі абавязаўся яшчэ ў гэтым годзе здаць дзяржаве 23 тоны мяса, а ў наступным годзе 97 тон свініны.

(яц)

«Не, расстрэльваць я цябе не буду, — вырашыў Сабко, калі атрад адыходзіў у бок лесу. — Я цябе перапраўлю на Вялікую зямлю. Абавязкова перапраўлю. Там разбяруцца, што ты за гусь!»

На імгненне ў камандзіра мільганула думка, што якім бы дальнабачным ні быў нямецкі шпіён, наўрад ці ён дазволіў бы знішчыць столькі мастоў, камендатур і эшалонаў. Але гэта думка з'явілася толькі на імгненне. Цяпер Сабко больш за ўсё цікавіў лёс атрада. Ці ўдасца прабіцца ў лес, ці няма дзе-небудзь засады?.. Бо яшчэ з таго памятнага начнога бою немцы маглі пакінуць карны атрад на подступах да лесу. Калі гэта так, тады партызанскі атрад імя Катоўскага, напэўна, перастане існаваць...

Але ўсё скончылася добра. Атрад дабраўся да лесу і праз некаторы час злучыўся з другім партызанскім атрадам, які меў рацыю і сувязь з Вялікай зямлёй. Сабко, які стаў начальнікам штаба аб'яднанага атрада, неадкладна запытаў камандаванне Шостай арміі пра старшага лейтэнанта Германа Крайса. Прыйшоў адказ. У шыфроўцы паведамлялася, што такі танкіст сапраўды быў, але з верасня сорак першага года яго лічаць загінуўшым.

І ўсё-такі Сабко не супакоіўся. Зброю Крайсу вярнулі, але з поля зроку на ўсялякі выпадак не выпускалі...

## ЗНАХОДЛІВАСЦЬ

Часта можна ўбачыць, як на сялянскіх палях валяюцца фоліевыя мяшкі па штучных угнаеннях. Многія жыхары Крывяціч робяць з гэтых мяшкоў вялікія палаткі. Яны сшываюць пустыя мяшкі і прыкрываюць імі стагі. Такая палатка вельмі прыдатна таксама ў час абмалотаў: зерне не падае на зямлю, а на палатку.

*Ваня Кірызюк*




Дарагое Сэрцайка!

Мне 15 год. Вучуся яшчэ ў пачатковай школе. Спадабаўся мне вельмі мой сябар з майго класа. Гаварыў мне, што і я яму спадабалася. Мы нават сядзім на адной парце. Пеця вучыцца, як і я, добра, разам мы нават выбіраемся ў адзін тэхнікум. Цяпер мы сядзім далей разам, але не адзываемся адзін да другога. Пеця зрабіў мне велізарнае, Сэрцайка, свінства, і я яму пастанавіла не выбачыць гэтага, пастанавіла не толькі не гаварыць з ім, але і змяніць тэхнікум, хоць мне найбольш адпавядае іменна той, у які мы разам хацелі выбрацца.

А цяпер паслухай, як гэта было.

Прыехала да нас кінаперасоўка. Дэманстраваўся добры савецкі фільм. Яшчэ ў школе мы з Пецем дагаварыліся, што пойдзем разам на фільм. Ён меў купіць білеты і чакаць мяне пад святліцай. Я прыйшла і што ўбачыла? Пеця стаяў са сваімі калегамі і смяяўся. Зрэшты, усе аб гэтым хіба ведалі, бо смяяліся разам з Пецем. Я завярнулася, нічога не гаворачы, і пайшла дамоў. Была вельмі злосная, бо шкадавала добрага фільма, а другая справа — гэта непрыемнасць, якая мяне сустрэла.

Сэрцайка, парай мне, як яму «аддзякаваць» за тэта, бо думаю, што тое, што я пастанавіла (аб чым пішу вышэй), дык замала на такое свінства.

Дзякую за параду.

*Валя з VIII кл.*

*Валя!* Калі ў вас было сапраўднае вучнёўскае сяброўства, дык сапраўды паступак Пеці быў брыдкі. Аднак з лісту твайго мне здаецца, што Пеця зразумеў ваша сяброўства інакш, і гэта толькі інакш з твайго боку, таму пастанавіў цябе «правучыць». Спачуваю табе, Валя, не найлепш ты сябе адчувала ў сваёй ролі, аднак «дарослыя» справы яшчэ перад табою, і найлепш было б, калі б ты Пецю лічыла сябрам, а не якімсьці там нарачоным. Бо нашто ж выпярэджваць час? Калі так добра падумаеш, напэўна прызнаеш мне рацыю. Калі ты такая яшчэ злосная на Пецю, дык можаш з ім нейкі час не гаварыць, аднак змяняць тэхнікума не варта, такая ж прафесія цябе цікавіць і для якогасьці там малога выглупа сябра няма патрэбы аж такую рабіць з сябе ахвяру.

*Сэрцайка*

(Працяг са стар. 3)

## Усё і нічога

Не трэба спецыяльнай падрыхтоўкі. Хопіць, калі кожны член ад сябе напіша некалькі слоў: аб сваёй працы, думках на тэму гэтай працы. Запісаць важнейшыя падзеі: акадэміі, вечарыны, сустрэчы... а нават цікавейшыя пасяджэнні гуртка.

Яшчэ справы фінансавыя. У кожным гуртку ёсць скарбнік. Дык чаму складчыны не аплочваюцца? Гэта праблема стаіць у нас клінам. Скарбнік павінен мець асобны сшытак, а не розныя лісткі паперы, у гэтым сшытку павінен ён не толькі ўпісваць аплочванне складчын, але і ўсе дробныя прыходы і расходы. Часта ў аддзел прыходзяць скарбнікі, прыносяць грошы і гавораць: «Гэта з нашага гуртка». Будзь разумны, разгадай: хто заплаціў і колькі.

Наступіла справаздачна-выбарная кампанія. Паедзем на вёскі рабіць сходы. Колькі не едзеш у вёску, едзеш у невядомае. Як дагэтуль, у маім аддзеле нехапае (мо ў іншых аддзелах ёсць) хоць аднаго слоўца аб тым, што ў такі то і такі дзень адбываецца сход у гуртку. Як прыкра чакаць, пакуль збяруцца члены гуртка. Не толькі таму, хто прыехаў абслугоўваць, але і тым, якія прыйшлі на сход раней. Ці можна было б парваць з гэтай практыкай? Няхай будзе сход раз на два тыдні, раз у месяц, але няхай гэта будзе сапраўдны сход запланаваны. Не будзе тады праблемы абслужыць гурток, памагчы яму ў працы.

Думаю, што радкі, напісаныя мною, выклічуць палеміку. А яе ў наступіўшай кампаніі не так многа. Прашу выказвацца шчыра і калі што не так, не шкадуйце, за крытыку гневацца не будзем.

*ВЕРАНІКА ЛЕАНЮК,*
*Аддзел БГКТ у Бельску.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля шлюбу я з мужам купіла супольна пляц, на якім бацька мой пабудаваў для нас дом, што станавіла мой пасаг. Паколькі ў апошнія часы муж мой вёў сябе неадпаведна, я ўзяла развод. Муж надалей жыве разам, п'янствуе і скандаліць. Ці можна патрабаваць прымусовага выдалення яго з кватэры?

АДКАЗ: Паколькі пляц, на якім пабудаваны дом, з'яўляецца супольнай уласнасцю вашай і вашага мужа, таксама і дом лічыцца супольнай уласнасцю. Нельга патрабаваць прымусовага высялення з памяшкання саўладальніка гэтага памяшкання.

Вы павінны выступіць у суд наконт падзелу супольнай маёмасці. За супольную маёмасць лічыцца ўсё тое, што вы з мужам набылі з сваіх даходаў. Да гэткіх даходаў не залічваецца пасаг, або ўсё тое, што набыта за пасажныя грошы. Таму трэба злажыць суду доказы, што дом гэты — ваш пасаг, а тады суд залічыць выдаткі на дом на вашу карысць.

Можна мець пэўнасць, што ў вашым выпадку суд, зносячы саўладанне, прызнае пляц і дом вам, а мужу прысудзіць ад вас сплату. Адначасова з гэтым суд мае абавязак загадаць вашаму мужу пакінуць памяшканне.

## ГЭТА ЦІКАВА



Сляды старой Кнышынскай пушчы: велізарны дуб, які расце на панадворку В. Чабана з вёскі Падлазні (Сакольскі павет).

Фота: Раман Прускі.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нараўка**

„Stopień ryzyka" (radz.), „Słoń Maruda" (ang.), 27—31.

**Нарва**

„Pułapka" (polski), „Wahadło" (USA), 27—31.

**Чыжы**

„Pogromca zwierząt" (rumuński), „Pan Dodek" (polski), 27—31.

**Дубічы Царкоўныя**

„Rachunek sumienia" (polski), „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 27—31.

**Арэшкава**

„Dotknięcie nocy" (polski), „Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (duński), 30—31.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Bokser" (polski), „Chleb i róże" (radz.), 27—31.

**Орля**

„Daleko od słońca" (jugosł.), „100 karabinów" (USA), 27—31.

**Райск**

„Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), „Krajobraz po bitwie" (polski), 27—31.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), „Lokis" (polski), 27—31.

**Янаў**

„Wezwanie" (polski), 27—31

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Wspaniałe wakacje" (NRD), 26—27. „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 28—29. „Lokis" (polski), 30—31.

**Мілейчыцы**

„Cierpkie wino" (radz.), 26—27. „Zabójstwo inż. Czarta" (czeski), 28—29. „Gott mit uns" (jugosł.), 30—31.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Niewolnicy" (USA), „Tagebuch" (polski), 27—31.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

## Пазнаёмімся

Пасажыраў у аўтобусе было мала. Сёй-той драмаў, іншыя пазіралі ў акно, ціха размаўлялі паміж сабою.

Мажная дзябёлая жанчына, якая размясцілася наперадзе, заняла абодва месцы сваімі сумкамі і кошыкамі.

На адным з прыпынкаў у аўтобус зайшла новая пасажырка. Багаж у яе быў таксама даволі значны: куфэрак, брызентавы мяшок, прыкрытае марляй вядро ды яшчэ дзве авоські.

Абвёўшы позіркам аўтобус, яна звярнулася да жанчыны, што сядзела на пярэднім сядзенні, патрабавала пасунуцца, даць месца побач з сабою.

— Ездзяць тут усялякія, — незадаволіла першая пасажырка. А другая бачыцам толькі і чакала, каб не зачапілі:

— Бач ты, порсткая знайшлася! Думаеш, алоўкам падвяла, — дык і ўсё! Цяпер такога дабра ў кожным кіёску поўна. Кожны можа малявацца.

Пасажыры моўчкі з цікавасцю сачылі за жанчынамі. А тыя то распальваліся да чырвані, то астывалі, каб набрацца новых сіл.

Нарэшце аўтобус прыбыў на апошні прыпынак. Там ужо яго чакалі тыя, хто прыйшоў сустракаць пасажыраў. Асабліва выдзяляліся двое. Па ўсім было відаць, што гэта жаніх і нявеста. Ён — у чорным касцюме, яна — у вясельнай сукенцы.

Падхапіліся са сваіх месц і жанчыны, якія ўсю дарогу сварыліся.

— Мама! — нявеста кінулася да першай жанчыны. — Як добра, што ты прыехала! А мы з Пятром чакаем вас! Пятро, дзе ж ты!

А Пятро тым часам, падхапіўшы рэчы другой жанчыны, уладкоўваў іх у багажнік таксі.

Потым, узяўшы пад руку сваю маці, падышоў да нявесты і будучай свайй цешчы, якая пачала ўжо здагадвацца, што да чаго.

— Ну, давайце знаёміцца, — першы падаў голас жаніх, — гэта мая маці.

Абедзве жанчыны, збянтэжана ўсміхаючыся, падавалі адна адной рукі.

— Вельмі прыемна! І як мы раней, свацейка, не здагадаліся пазнаёміцца. А разам жа ехалі...

*Ул. Гайтан*

### У ШКОЛЕ

Размова школьнікаў:
— Я хацеў бы стаць чараўніком.
— Навошта?
— Каб пераўтварыць нашага настаўніка матэматыкі ў канарэйку і потым адчыніць акно.

### У ДЗІМРОТА

Для вызначэння тэмпературы плаўлення якога-небудзь рэчыва хімік-арганік Карл Дзімрот звычайна карыстаўся сігарай. Калі аднойчы да яго зайшоў калега, які наогул не курыў, Дзімрот задумена спытаўся:

— А чым жа вы вызначаеце пачатак плаўлення?

# НІЎКА

*На службе раніцай у панядзелак.*

### НА РЫБАЛКУ!

*У падвалах павятовага дома культуры ў Саколцы поўна вады.*

У нас без кавы — з краю ў край —
Да культуры не сядай!

А ў Саколцы вось, кажу вам, як ніздзе
Не ў каве культура мокне, а ў вадзе:
Ва ўсіх падвалах у Пэдэка —
На сажань возера ды асака.
Саколцы кажуць:
— Кавярня мела быць, а ты там хоць
Гадоўлю рыбную разводзь!..
А я ў тое возера ці стаў
Начальнікаў сакольскіх бы загнаў,
Рыбалку б ім устроіў. Не на многа:
На тыдзень, два — без выхаднога.
Знайшлі б, н а п э ў н а, як і дзе
Дацъ вусце той вадзе.

*Авадзень*

## Талаваломка

Сярод гэтых чатырох паляўнічых вызначце самага нявопытнага.

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 1 | 9 | 5 | 4 | 6 |
| 3 | 4 | 8 | 3 | 7 | 8 |
| 6 | 5 | 6 | 2 | 1 | 5 |
| 7 | 3 | 4 | 3 | 2 | 7 |
| 8 | 6 | 7 | 8 | 4 | 6 |
| 9 | 4 | 1 | 9 | 3 | 8 |

### КОЛЬКІ КАШТУЕ

Міхась вельмі эканомны. Неяк ён спытаў у кандуктара: «Колькі ж каштуе праезд?»

«Адзін грош», — адказвае кандуктар. «А колькі павінен я заплаціць за свой партфель?» — пытае Міхась. «Нічога», — гаворыць кандуктар. На што катэгарычна пярэчыць Міхась: «Тады няхай партфель едзе, а я буду бегчы ўслед».

### ГЛОБУС

Кастусь хоча купіць сабе глобус. У магазіне прадаўшчыца пытае яго: «Якой жа велічыні ён павінен быць?» Кастусь думае, затым рашуча кажа: «Ну... прыблізна натуральнай».

### УПЕРШЫНЮ

— Скажыце, вы выпадкова не сын старога Янкі?
— Так, сын. Але што выпадкова — я чую ўпершыню...

### АСВЯЖАЮЧАЕ

«Дарагая, прапануй госцям штонебудзь асвяжаючае!»

«Зараз», — адказала гаспадыня з усмешкай і шырока адчыніла акно.

### ЯК ЖЫЎ

Святкавалі васьмідзесяцігоддзе паважанага старога і пяцідзесяцігоддзе яго сямейнага жыцця. Рэпарцёры, захапляючыся моцным здароўем юбіляра, засыпалі яго пытаннямі. Галоўным чынам іх цікавіла, як ён жыў.

— Ведаеце, шаноўныя, я аб гэтым ніколі не задумваўся. Проста, калі мы з Марысяй пажаніліся, мы дагаварыліся, што як толькі мы пасправачаемся, я надзяю капялюш і тры разы абыходжу вакол квартала. І вы не паверыце, якую карысць могуць прынесці штодзённыя прагулкі на працягу пяцідзесяці гадоў!

### НЕ АД ТАГО ЛЯЧЫЛІ

Спаткаліся два сябры. Адзін гаворыць другому:

— Слухай, братка, ты ж мне казаў, што цябе ад гарэлкі лячылі, а ты зноў п'яны?

— Яно то так, лячылі ад гарэлкі, але я цяпер толькі віно п'ю.



*— Вось гэту, калі ласка!*

### КНІГА

Оля: Як падабаецца табе новая кніга, Ніна?
Ніна: Канец цудоўны!
Оля: А пачатак?
Ніна: Да яго я яшчэ не дайшла.

### ЦІ ЗАПІСВАЕ

Эйнштэйна аднойчы спыталі, ці запісвае ён свае геніяльныя думкі?

— Не,— адказаў вялікі вучоны, — за ўсё жыццё мне прыйшло ў галаву не больш двух-трох геніяльных думак, а іх няцяжка было і запомніць.

### ВЫСПАЛАСЯ

Маці гаворыць маленькай Ірынцы:
— Чаму ты так рана ўстала?
— А я ў мінулую ноч выспалася.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*У сувязі з аб'яўленым Галоўным праўленнем БГКТ і «Нівай» агляду «Беларуская песня 1972», «Ніва» пачала друкаваць беларускія песні, якія можна рыхтаваць да агляду. Заахвочваем да выкарыстання песень з «Нівы».*

## НА СПАТКАННІ

(Для хору з баянам)

Словы М. Чарняўскага — Музыка А. Ізотава




Пазірае вечар
У акно маё,
Не сціхае ў садзе
Песня салаўёў.
Выйшаў я у поле,
Дзе трава-мурог,
Сцелюцца удалеч
Ручнікі дарог.

Песню шчасця чую —
То ж ідзе яна,
Гэткі голас мае
У сяле адна.

Вось яна ўжо блізка
Ля мяне стаіць,
Вось і пацалунак
На губах гарыць.

Гулка б'ецца сэрца
У грудзях маіх,
Дык званчэй спявайце,
Птушкі-салаўі,
Не спяшайся, ночка,
Гэтак не бяжы.
Бо няма каханню
Шчыраму мяжы.



*— Мы на месцы, выходзь, дарагая.*

## Курёзы

### ЯК У ТЭАТРЫ...

Выкладчык заалогіі Каліфарнійскага універсітэта (ЗША) Рычард Ікін чытае студэнтам лекцыі аб паходжанні відаў загрыміраваным пад Чарльза Дарвіна. На лекцыі па генетыцы ён прыходзіць у аўдыторыю загрыміраваным пад Мэндэля. Ікін грыміруецца для таго, каб, паводле яго слоў, «як-небудзь пераадолець апатыю да лекцый у студэнтаў».

### У СЕТКАХ — ДВУХТОННАЯ АКУЛА

Рыбакам з горада Кочын, штат Керала, пашанцавала. У іх сетку трапіла шасціметровая акула, яе вага — дзве тоны.

Моцна давялося папацець рыбакам, перш чым выцягнуць на бераг гэткую пачвару. Затое іх праца ўвянчалася добрым заробкам.

Цікава і іншае. Акула жыла на беразе каля гадзіны і... нарадзіла адзінаццаць акулят. Аднак усе яны нарадзіліся мёртвымі.

### І СУДДЗІ ПАМЫЛЯЮЦЦА

Французскія суддзі міжнароднай катэгорыі Мартэн і Пеці ехалі з Парыжа ў Ліён судзіць футбольны матч паміж мясцовай камандай і гасцямі з Бардо. Арбітры так захапіліся размовай, што не ўбачылі, як перавысілі ўстаноўленую хуткасць. Але калі да іх пад'ехаў паліцэйскі, каб узяць штраф, і даведаўся, хто яны, ён адпусціў іх з мірам. «Едзьце і будзьце аб'ектыўныя ў час матча. Вы мяне разумееце! А не то...» — такімі словамі правадзіў арбітраў вартаўнік парадку.




**Звычайна той, хто мае сяброўскую руку, моцна стаіць і на нагах.**